# Голас Радзімы

№ 20 (2110)
18 мая 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Старажытны Віцебск, горад на Дзвіне, нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, сёння поўны сіл і энергіі. Дакладней сказаць: з гадамі і прыгажэе, і маладзее. На жаль, у Віцебску захавалася няшмат помнікаў даўніны, але і яго сучасныя плошчы і вуліцы запамінаюцца ўсім, хто пабывае тут. І, безумоўна, кожны віцябчанін ці чалавек прыезджы найперш прыгадае славутасць горада — тэатр, акадэмічны, імя Якуба Коласа. Будынак яго некалькі гадоў назад быў адноўлены і ў значнай ступені перабудаваны. Яго вы і бачыце на здымку нашага фотакарэспандэнта.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ДАНІНА ЎДЗЯЧНАСЦІ

# ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ, ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ



9 мая наша краіна ўрачыста адзначыла вялікае свята — Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй.

Другая сусветная вайна была самай страшнай, самай жорсткай, самай разбуральнай у гісторыі чалавецтва. Яна ўцягнула ў сваю арбіту 61 краіну, 80 працэнтаў насельніцтва зямнога шара.

Разбурэнні, пакуты, страты народаў свету былі сапраўды незлічонымі. У нашай краіне полымя вайны паглынула мільёны чалавечых жыццяў, яшчэ большай колькасці людзей пакалечыла лёсы, мы страцілі трэць нацыянальнага багацця.

Сваёй перамогай Савецкі Саюз унёс рашаючы ўклад у вызваленне народаў Еўропы ад нацысцкага рабства, у пазбаўленне сусветнай цывілізацыі ад цемрашальства гітлерызму, адкрыў новыя магчымасці для барацьбы народаў за мір і дэмакратыю.

Даўно залячыла зямля раны мінулай вайны, зелянее маладая рунь на палях, дзе гарэла браня, але насмерць стаялі савецкія салдаты. Памяць аб подзвігу франтавікоў, аб самаадданых працаўніках тылу, якія дарагой цаной здабылі для нас мір, непадуладная часу.

...Мінск 9 Мая. Па традыцыі сабраліся на галоўную плошчу беларускай сталіцы да помніка У. І. Леніну людзі, каб выказаць сваю любоў і павагу заснавальніку Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян.

10 гадзін раніцы. Кіраўнікі Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі ўскладаюць да помніка жывыя кветкі ад Цэнтральнага Камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў рэспублікі.

Кветкі ўскладаюцца ад ваеннага савета БВА, ветэранаў вайны і працы, Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, ЦК ЛКСМБ, мінскіх абкома КПБ і аблвыканкома, гаркома партыі і гарвыканкома, райкомаў і райвыканкомаў беларускай сталіцы, працоўных калектываў горада.

Былі ўскладзены таксама кветкі ад генеральных консульстваў Польскай Народнай Рэспублікі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, гандлёвага прадстаўніцтва ЧССР у Мінску.

... Плошча Перамогі. Нязгасным сімвалам народнай памяці б'ецца на веснавым ветры полымя Вечнага агню. На паліраваным граніце тумб з зямлёй гарадоў-герояў — чырвоныя гваздзікі. Далёка навокал разносяцца гукі ваеннага аркестра. Кіраўнікі Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі, ветэраны, прадстаўнікі працоўных Мінска ўскладаюць да падножжа манумента вянкі.

Вянкі былі ўскладзены таксама ад генеральных консульстваў ПНР і ГДР у Мінску.

Удзельнікі ўрачыстага рытуалу ўшанавалі мінутай маўчання памяць воінаў Савецкай Арміі, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Урачыстым маршам прайшла ганаровая варта воінаў Мінскага гарнізона.

Ушанаванне памяці загінуўшых адбылося таксама на Кургане Славы, на мемарыяльным комплексе «Хатынь», ля абеліска «Мінск — горад-герой», ля брацкіх магіл, помнікаў, абеліскаў, мемарыяльных дошак ва ўсіх гарадах і вёсках рэспублікі.



У Беларусі даўно ўжо ідуць размовы аб устанаўленні адзінага Дня памяці — дня грамадскага памінання тых, хто жыў і працаваў на нашай зямлі, хто аддаў сваё жыццё за яе свабоду і працвітанне, памінання родных і блізкіх, усіх продкаў, ад якіх пайшла і развівалася наша шматпакутная бацькаўшчына. У партыйныя і савецкія органы паступае нямала прапаноў адзначаць яго ў першыя майскія дні, калі асабліва адчуваецца і радасць нашай перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, і горыч страт. У многіх раёнах рэспублікі такая традыцыя ўжо існуе. Акрамя таго, яшчэ з язычніцкіх часоў бярэ свой пачатак добры славянскі звычай: на радаўніцу, якую адзначаюць у адзін з веснавых дзён, прыводзіць у парадак магілы, памінаць усіх, хто ляжыць у іх.

Мінскі гарвыканком такое рашэнне гэтымі днямі ўжо прыняў. Аднак не толькі дырэктывамі выхоўваецца памяць, яна павінна жыць у кожным з нас, бо ў ёй — нашы карані і нашы вытокі.

Дзесяткі тысяч людзей прынялі ўдзел у мерапрыемствах Дня памяці, які прайшоў у рэспубліцы 9 мая. Мітынгі і ўскладанні кветак, мінуты маўчання адбыліся на многіх гарадскіх і сельскіх могілках, ля помнікаў ахвярам фашызму, у месцах масавых расстрэлаў людзей у гады сталінскіх рэпрэсій, на брацкіх магілах і мемарыяльных комплексах, магілах, дзе пахаваны воіны-інтэрнацыяналісты, якія загінулі ў Афганістане.

**НА ЗДЫМКАХ:** у жалобнай цырымоніі ў Курапатах прынялі ўдзел кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі. Тут у гады сталінскіх рэпрэсій загінула 30 тысяч чалавек; адзін з многіх ветэранаў вайны на вуліцы Мінска.

ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ

## АДНАВІЛІ ДОБРАЕ ІМЯ

Адбылося чарговае пасяджэнне камісіі прэзідыума Белсаўпрофа па дадатковаму вывучэнню матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў.

Член камісіі А. Абуховіч далажыў аб ходзе вывучэння матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі прафсаюзных работнікаў, у Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

Была таксама заслухана інфармацыя аб рабоце з пісьмамі і заявамі працоўных, якія паступаюць у камісію. Шэрагу заяўнікаў пасля вывучэння спраў аказана садзейнічанне ў аднаўленні добрага імя іх бацькоў і родных, удакладнены месцы захавання, кампенсаваны матэрыяльныя страты.

У далейшым камісія Белсаўпрофа мае намер сканцэнтраваць свае намаганні на абароне правоў і інтарэсаў рэабілітаваных.

МІРАЛЮБІВАЯ АКЦЫЯ

## МІЖПРАВАСЛАЎНАЯ СУСТРЭЧА

У Мінску завяршыла сваю працу міжправаслаўная кансультацыя «Справядлівасць і мір», якія праходзіла ў рамках праграмы Сусветнага савета цэркваў па кансалідацыі ўсіх хрысціянскіх канфесій у справе абароны міру.

— Мы ставім перад сабой задачу прадэманстраваць актуальнасць такіх спрадвечных каштоўнасцей чалавецтва, як справядлівасць і мір, гуманізм і унікальнасць самога жыцця на Зямлі, — адзначыў кіраўнік кансультацыі, намеснік дырэктара праграмы архімандрыт Г. Лімурыс.

Удзельнікі міжправаслаўнай кансультацыі былі прыняты намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікулічам. Ён ахарактарызаваў як канструктыўныя сённяшнія адносіны дзяржавы і царквы, адказаў на шматлікія пытанні.

Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт, які выступіў на сустрэчы, падкрэсліў, што перабудова адкрывае вялікія магчымасці для Рускай праваслаўнай царквы ў справе служэння народу.

Прадстаўнікі праваслаўных цэркваў ускладі вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі і кветкі да Вечнага агню мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

УЗНАГАРОДА ВЕТЭРАНАМ

## БРАЦТВА ПА ЗБРОІ

Да шматлікіх баявых узнагарод ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, якія сабраліся ў генеральным консульстве ПНР у Мінску, прыбавіліся медаль «Брацтва па зброі» і Залаты ганаровы знак Таварыства польска-савецкай дружбы. Іх уручыў на сустрэчы, прысвечанай святу Перамогі, генеральны консул М. Абядзіньскі. Сярод узнагароджаных Герой Савецкага Саюза Марыя Осіпава, якая ў гады вайны ўзначальвала групу польскіх антыфашыстаў у Мінску, Міхаіл Заваротны — былы начальнік сувязі 3-й партызанскай брыгады Арміі людовай імя генерала Бэма, ганаровы грамадзянін горада Радам, а таксама ўдзельнікі вызвалення Польшчы, члены Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны, актывісты Таварыства савецка-польскай дружбы, военачальнікі.

Выступаючы перад прысутнымі, М. Абядзіньскі падкрэсліў, што брацтва па зброі, якое нарадзілася ў гады барацьбы з фашызмам на беларускай зямлі, паклала пачатак новым, пастаянна мацнеючым адносінам паміж народамі дзвюх рэспублік і служыць яскравым прыкладам неўміручасці традыцый, заснаваных на агульных ідэях сацыялізму, міру і дружбы.

СКАРАЧЭННЕ ВОЙСК

## НЕВАЕННЫЯ КІЛАМЕТРЫ ВАЕННЫХ «ЗІЛаў»

З армейскіх ангараў адразу на распрадажу адправілася ваенная аўтамабільная тэхніка, якой у сувязі са скарачэннем Узброеных Сіл СССР аб'яўлена «дэмабілізацыя». На гэтым своеасаблівым кірмашы, які праводзіцца рэспубліканскім камерцыйным цэнтрам Дзяржснаба БССР, — магутныя «ЗІЛы» і «Уралы», «КамАЗы», і «ГАЗы», што адслужылі ў Беларускай ваеннай акрузе і Групе савецкіх войск у Германіі. Іх могуць набыць кааператары, арандатары і нават прыватныя асобы.

Ужо атрымана больш як 200 заявак, прычым не толькі на аўтамашыны, але і на розную рэчавую і гаспадарчую маёмасць. Папулярнасцю карыстаюцца, напрыклад, сродкі індывідуальнай абароны, асабліва ў паляўнічых і рыбакоў. Прадукцыя, закупленая ў воінскіх часцей, рэалізуецца па рознічных цэнах. Асабліва многа заявак ад арандатараў — літаральна з усіх абласцей рэспублікі. Дарэчы, размеркаваны машыны па абласных аддзяленнях Дзяржснаба, і чалавеку, зацікаўленаму ў пакупцы, няма неабходнасці ехаць за ёю ў сталіцу. Каб не атрымалася так, што армія проста спіхвае насельніцтву непатрэбную, дабітую або пражаўленую ад дзесяцігадовага стаяння «на калодках» тэхніку, цэнтрам арганізавана спецыяльная камісія, якая прымае маёмасць у ваенных.

## САВЕЦКІ ФЕДЭРАЛІЗМ СКРОЗЬ ПРЫЗМУ ЭКАНОМІКІ

# ДЫСКУСІІ АБ «РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ВАЛЮЦЕ»

Апошнім часам у сувязі з дыскусіяй аб далейшых шляхах эканамічнай перабудовы ў краіне ў некаторых органах нашай прэсы, у першую чаргу ў Прыбалтыцы, стала выказвацца ідэя аб увядзенні «рэспубліканскіх валют». Логіка такая: паколькі фактычная пакупная здольнасць рубля неаднолькавая ў розных рэгіёнах краіны (а гэта праўда), трэба знайсці спосаб «закрыць» эфектыўна працуючую эканоміку ад уварвання «танных», незабяспечаных грошай. Няхай кожная рэспубліка, сама зарабляючы сродкі, сама і расплачваецца за свае няўдачы. Рынак ёсць рынак.

Ідэя, нягледзячы на некаторую нечаканасць свайго з'яўлення, узнікла не на пустым месцы і набыла даволі шмат прыхільнікаў. Ёсць у ёй і парадаксальны момант: у той час як у краіне шукаюць шляхі да ператварэння рубля ў канверсаваную валюту, каб зрабіць яго паўнацэнным партнёрам на знешнім рынку, на рынку ўнутраным прапаноўваецца зварот да становішча, якое існавала да 1922 года, — часу нараджэння СССР. І тым не менш само абмеркаванне гэтай ідэі — характэрная, хаця і своеасаблівая ілюстрацыя таго, як складана і супярэчліва праходзіць у краіне эканамічная перабудова.

Напомню агульнавядомае: эканоміка 15 саюзных рэспублік, якія ўтвараюць СССР, уяўляе сабой адзіны народнагаспадарчы комплекс з вельмі высокай ступенню уніфікацыі. Дрэнна гэта ці добра? Да нядаўняга часу, дакладней да пачатку перабудовы, гэтае пытанне практычна не задавалася. Зрэшты, як і многія іншыя, напрыклад, такое: ці ёсць у Савецкім Саюзе «багатыя» і «бедныя» рэспублікі. Меркавалася роўнасць магчымасцей, што каардынуецца ўсемагутным «цэнтрам», які справядліва размяркоўвае сродкі з «агульнага катла». Зразумела, насельніцтва на ўласным вопыце пераконвалася, што ўмовы жыцця адрозніваюцца, часам і ў побач размешчаных раёнах, але «кухня», на якой рыхтаваліся гэтыя дыспрапорцыі, яму заставалася невядомай.

Аднак поўнага вакууму інфармацыі, натуральна, не бывае. Адсутнасць дакладных звестак нараджала ўяўленні, блізкія да міфалагічных. У разглядаемым коле іх можна звесці да схемы: жыхару Эстоніі здаецца, што яго даходы забіраюць, каб растраціць скажам, у Расійскай Федэрацыі, напрыклад, на асваенне Сібіры, а жыхару багатай па прыродных рэсурсах Сібіры, якая забяспечыла хаця б «залаты дождж» у дзесяткі мільярдаў долараў на экспарце нафты, не ясна, чаму Эстонія, дзе, «акрамя сланцаў і мора, нічога няма», знаходзіцца на першым месцы ў СССР па ўзроўню жыцця, а Расійская Федэрацыя не ўваходзіць па гэтаму галоўнаму паказчыку нават у дзесятку. І самае галоўнае: чаму адзін і той жа рубель, выплачаны ў Сібіры і ў Эстоніі, мае «ў сябе дома» фактычна розную пакупную здольнасць.

Публічнасць, праліўшы святло на многія раней «закрытыя зоны», раскрыла сакрэты і фінансавага становішча краіны. Дзяржаўны бюджэт СССР не першы год зводзіцца з дэфіцытам (сёлета ён можа дасягнуць 100 мільярдаў рублёў), і вінавата ў гэтым бюракратычная сістэма кіравання эканомікай, затратная па самому свайму характару. Гэтай сістэме былі ўвогуле абыякавыя інтарэсы той ці іншай рэспублікі ці рэгіёна — яна аднолькава наносіла ім шкоду — і «вялікай» Расійскай Федэрацыі, і «маленькай» Эстоніі. Ажыццяўляючы сваё ўсеўладдзе праз дыктат саюзных міністэрстваў, па сутнасці вялікіх манаполій, яна ўпарта дэвальвавала рубель пры фармальным захаванні яго наміналу розніца ў яго фактычных «курсах» існавала (і, на жаль, пакуль працягвае існаваць) не толькі ў рэгіянальным аспекце, але і па сацыяльных узроўнях — у залежнасці ад становішча пакупніка на іерархічнай лесвіцы ці «ўключанасці» яго непасрэдна ў сістэму размеркавання («ценявая эканоміка»). У гэтай сістэме грошы ўсё больш перастаюць быць уласна грашамі, становячыся толькі дадаткам да своеасаблівых «клубных картак». І як бы сумна ні было гэта для прыхільнікаў увядзення «рэспубліканскіх грошай» (у большасці яны людзі сумленныя), менавіта адміністрацыйна - каманднай сістэме была б больш на руку новая разнастайнасць такіх «картак».

Эканамічная перабудова ў СССР ідзе па іншаму шляху — праз пашырэнне гаспадарчай самастойнасці рэспублік, вызваленне іх ад дыктату агульнасаюзных міністэрстваў-манаполій. Частка гэтых міністэрстваў увогуле ліквідуецца, і, напрыклад, кіраванне культурай, службай быту, жыллёва-камунальнай гаспадаркай становіцца прэрагатывай нацыянальных рэспублік. Калі сёння доля прадукцыі прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання ў сярэднім па краіне складае адну дваццатую, то ў бліжэйшы час мяркуецца яе рэзка павысіць. Рэспублікі атрымліваюць у сваё распараджэнне ўсе прадпрыемствы, што выпускаюць тавары народнага спажывання, вялікую долю агульнадзяржаўных падаткаў і поўнасцю — дзяржаўныя падаткі з насельніцтва. І, нарэшце, самае галоўнае, магчымасць самастойна распараджацца сваімі даходамі і расходамі. Зразумела, у рамках адзінай для федэрацыі грашовай сістэмы. Бо толькі ў такім выпадку рубель можа стаць моцнай, па-сапраўднаму ахаванай валютай.

**Леанід КОРАНЕЎ.**



Бярозавы гай — адна з адметнасцей беларускіх краявідаў. Фота К. АЛЯКСАНДРАВА.

## ПАРТАТЫЎНЫ ЭЛЕКТРАСТЫМУЛЯТАР ЗДЫМАЕ БОЛЬ

# ЛЕЧЫЦЬ... МАГНІТНЫ ІМПУЛЬС

Пастаяннае магнітнае поле ўжо даволі даўно выкарыстоўваецца ў медыцыне, аднак не заўсёды прыносіць эфект. Вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута траўматалогіі і артапедыі ўпершыню прымянілі для лячэння хворых магнітныя імпульсы высокай энергіі. Гутарка ідзе ў першую чаргу аб захворваннях і траўмах тазасцегнавога сустава, якія часта суправаджаюцца моцнымі болямі. Яны нярэдка цягнуцца дзесяцігоддзямі, у выніку чалавек страчвае здольнасць рухацца. А традыцыйныя метады фізіятэрапіі, вода- і гразелячэння часам не аблягчаюць пакут, аперацыя ж па рэканструкцыі сустава цяжкая і таксама не заўсёды магчымая.

— Некалі ў мяне была мара стварыць партатыўны электрастымулятар для зняцця болей, — расказвае аб тым, як нарадзілася ідэя лячыць магнітным імпульсам, адзін з яе аўтараў, кандыдат медыцынскіх навук Сяргей Казлоўскі. — Аднак медыку самастойна вырашыць такую задачу не па сілах. Дапамаглі вучоныя Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук Беларусі.

Чатыры гады спатрэбілася вучоным — медыкам і фізікам, каб стварыць першы варыянт прыбора. Яго магчымасці ўпершыню былі абмеркаваны ў 1984 годзе на пасяджэнні праблемнага савета па магнітатэрапіі і магнітабіялогіі Міністэрства аховы здароўя СССР. Вядучыя спецыялісты краіны былі тады здзіўлены самой пастаноўкай пытання: маўляў, моцнае магнітнае поле прывядзе да распаду тканак і для лячэння прымяняцца не можа! Гэты скепсіс зразумелы, таму што прычына тэрапеўтычнага ўздзеяння магнітнага поля на арганізм да канца не разгадана і да сёння.

Спатрэбіліся карпатлівыя доследы на жывёлах, каб даказаць: рэкамендуемыя рэжымы апрамянення не выклічуць адмоўных вынікаў для хворага. Работа беларускіх вучоных была ўключана ва ўсесаюзную галіновую навукова-тэхнічную праграму па ахове здароўя.

Перш чым перайсці да клінічных выпрабаванняў новага метаду лячэння, давялося вырашыць шэраг складаных навукова-тэхнічных праблем. Цяпер навінка, у якой увасоблены тры вынаходствы, дазваляе за самую малую долю секунды вылучыць магнітную энергію, у дзесяткі разоў большую, чым вядомыя да гэтага апараты. Магнітны імпульс значна павялічвае цыркуляцыю крыві ў месцы, якое апрамяняецца, змяншае альбо зусім спыняе боль, паскарае зажыўленне ран.

Выявіўся і невядомы раней эфект: пад уздзеяннем імпульснага магнітнага поля, без непасрэднага кантакту з дэталямі апаратуры, мышца або нерв скарачаецца. Гэта, апрача пазнаваўчага, мае і вялікае практычнае значэнне, паколькі поўнасцю абараняе пацыента ад паражэння электрычным токам. Камітэт па новай тэхніцы Міністэрства аховы здароўя СССР рэкамендаваў прыбор да серыйнай вытворчасці.

Як жа працуе навінка? Разам з Сяргеем Казлоўскім заходзім у кабінет імпульснай магнітатэрапіі. На тумбачцы — прамавугольны апарат велічынёй з чамадан сярэдніх памераў, ад якога цягнецца скрутак правадоў з выпраменьвальнікам магнітных імпульсаў на канцы. Даследчык шчоўкнуў тумблерам, паклаў на выпраменьвальнік колца з немагнітнага матэрыялу, і раптам... яно рэзка ўзлятае ўгару і са звонам стукаецца ў столь — такая сіла магнітнага імпульсу. Міжволі падумалася: а як жа хвораму?

— Абсалютна бязбольна, — запэўніў вучоны і ў доказ прыклаў выпраменьвальнік да майго бядра. Праз некалькі секунд адчулася лёгкае цяпло і, у такт імпульсам, ледзь адчувальнае падрыгванне мышцаў.

— На новым апараце прайшлі лячэнне ўжо амаль 1 200 чалавек, — працягвае Сяргей Казлоўскі. — Прыкладна 80—85 працэнтаў з іх адчулі аблягчэнне. Прычым яно было пацверджана аб'ектыўнымі клінічнымі абследаваннямі. У выніку знаходжанне хворых у стацыянары скарацілася ў сярэднім на 10—11 дзён, на 8 працэнтаў зменшыўся час знаходжання іх у непрацаздольным стане. Вядома, магнітная імпульсная тэрапія не панацэя ад усіх бед, але калі хвароба не запушчана, лячэнне дае адчувальныя вынікі.

Апрача артапедыі, магнітная імпульсная тэрапія ўжо прымяняецца беларускімі ўрачамі і вучонымі ў неўралогіі, უралогіі, стаматалогіі, ветэрынарыі.

**Уладзімір БІБІКАЎ.**

## ДАСЛЕДАВАННІ КАЛІФАРНІЙСКІХ ВУЧОНЫХ

# КОЛЬКАСЦЬ ЗАХВОРВАННЯЎ НЕ ЎЗРАСЦЕ

Групай каліфарнійскіх вучоных з Лабараторыі імя Лоурэнса ў Ліверморы, Інстытута электраэнергетыкі ў Пала-Алта і Каліфарнійскага універсітэта ў Дэйвісе апублікаваны вынікі праведзенага імі статыстычнага аналізу ўплыву чарнобыльскай аварыі на здароўе насельніцтва планеты. У гэтым, як яны назвалі, першым навуковым даследаванні па ацэнцы медыцынскіх эфектаў ад выбуху рэактара ў Чарнобылі амерыканскія спецыялісты сцвярджаюць, што радыеактыўныя выкіды пасля выбуху практычна не ўяўляюць ніякай небяспекі для большасці жыхароў усіх краін.

Толькі сярод асоб, якія знаходзіліся ўнутры 30-кіламетровай зоны вакол АЭС, могуць з часам узнікнуць ракавыя захворванні, якія можна будзе неяк суаднесці з перанесеным імі ў свой час апрамяненнем. Аднак і для гэтых 115 тысяч чалавек, што былі эвакуіраваны з зоны, такі ўплыў ніколі нельга будзе выразіць колькасна. Эпідэміялагічнымі даследаваннямі немагчыма выявіць ніякіх медыцынскіх эфектаў аварыі, таму што радыяцыя практычна неістотна павялічыла штодзённую «фонавую» рызыку.

Згодна з агульнапрынятымі цяпер ацэнкамі, кожны жыхар нашай планеты рызыкуе памерці ад рака з 15-працэнтнай верагоднасцю. Паводле разлікаў аўтараў даследаванняў, гэта рызыка для жыхароў СССР, уключаючы асоб, якія жылі бліз Чарнобыля ці працавалі там, у выніку выбуху ўзрасла на 0,02 працэнта, для жыхароў астатніх еўрапейскіх краін — на 0,01 працэнта і для насельніцтва ўсяго Паўночнага паўшар'я — на 0,003 працэнта.

— Гэта, відаць, разумныя лічбы, — сказаў карэспандэнту «Сайенс ньюс» Чарлз Мілер з Ілінойскага ўпраўлення па ядзернай бяспецы ў Спрынгфілдзе. Самі ж аўтары лічаць, што іх ацэнкі нават завышаныя, і для асоб па-за 30-кіламетровай зонай яны не выключаюць магчымасці наогул нулявога прыросту верагоднасці ракавага захворвання.

Хоць некалькі дзесяткаў людзей і памерлі ў выніку кароткачасовага інтэнсіўнага апрамянення ў Чарнобылі, большасць асоб паблізу ад рэактара падвяргаліся радыяцыйнаму ўздзеянню паступова. Даследчыкі лічаць апрамяненне падобнага роду менш небяспечным.

— Калі які-небудзь уплыў на здароўе людзей і можна будзе некалі наогул выявіць, дык гэта можа быць толькі павелічэнне выпадкаў захворвання міелоіднай лейкеміяй сярод жыхароў зоны АЭС, — заявіў адзін з удзельнікаў даследавання Мервін Голдман з Каліфарнійскага універсітэта. Гэта смяротная хвароба ўзнікла ў некаторых жыхароў Хірасімы і Нагасакі на працягу 10 гадоў пасля атамнай бамбардзіроўкі.

# ВОЗРОЖДАЮТСЯ ПАМЯТНИКИ БУХАРЫ

Бухара сегодня — это город-музей, а в древности здесь был один из крупнейших центров исламской культуры. К концу IX века Бухара стала столицей Саманидского государства. «Бухара-и-Шериф» — «Благородная Бухара» — так называли тогда этот город. В его богатейшей библиотеке счастливейшие дни своей жизни провел знаменитый Авиценна.

Свидетели тех далеких времен — великолепные архитектурные памятники — мечети, минареты, медресе. Самый высокий в городе минарет Калян поднялся в небо на 47 метров, и кажется, что он плывет вместе с облаками. Он украшает облик города более восьми столетий, помнит еще нашествие Чингисхана. А рядом удивительно гармонично расположено медресе Мир-Араб, оно построено в XVI веке шейхом Абдуллой Йеменским, известным по имени Мир-Араб. В медресе его имени получили образование многие известные исламские мыслители. В наши дни здесь находится духовное училище, где учатся мусульмане из разных концов страны. В городе немало и других архитектурных памятников прежних эпох.

Поначалу посетитель этих мест с восхищением взирает на уникальные творения рук человеческих, сохранившиеся несмотря на вековые перемены и потрясения в природе и обществе. Однако, приглядевшись внимательнее, замечаешь, что время все-таки оставило свой след. Многие здания обветшали, частично разрушились и требуют ремонта и реставрации.

В 20-е годы начались работы по сохранению и реставрации памятников на научной основе. В Бухару приезжали ученые и специалисты — реставраторы из Москвы и Ленинграда. Постепенно готовились и местные кадры. В результате удалось предохранить от разрушений мавзолей Исмаила Самани — жемчужину архитектуры конца IX века, ансамбль Ляби-Хауз и мечеть Магоки — Аттари XI—XII веков, древние караван-сараи, где останавливались путешественники, следовавшие по «шелковому пути» из Передней Азии в Китай.

В последнее время усилился общественный интерес к сохранению памятников древности как бесценному национальному наследию. В Бухаре действует специализированная научно-реставрационная мастерская, где занято 220 человек. Работы ведутся одновременно на десятках объектов. Среди них — медресе Абдуллы-Хана и Мир-Араб, ансамбли Чор-Бакр, Богоутдин, древний крытый рынок и многие другие.

В медресе Мир-Араб трудится бригада во главе с большим мастером О. Бобомурадовым. Мастерству резьбы по дереву, ганчи, кладки из шлифованных кирпичей, стенной росписи он учился у своего отца и деда, а теперь охотно передает свои знания молодежи. Его радует, что у молодежи сейчас такой большой интерес к этой работе. Еще десяток лет назад его профессия не считалась престижной. Теперь же принять участие в реставрационных работах — большая честь. Ведь речь идет о сохранении национальной самобытности, важной части того, что относится к истокам нашей сегодняшней культуры.

Один из самых активных участников этих работ главный инженер реставрационной мастерской М. Сафаев с горечью говорит о недавнем прошлом, когда к памятникам было почти безразличное отношение. В результате многое было безвозвратно утрачено. Для строительства нового дома безликой архитектуры нередко разрушалось древнее строение, имевшее большую художественную и историческую ценность, но требовавшее затрат на ремонт. В то же время нынешнее оживление духовной жизни, вызванное перестройкой, благотворно сказывается на всех сторонах нашего бытия. Красиво жить можно не разрушая, а сохраняя и приумножая красоту.

**Владимир МИЖИРИЦКИЙ.**

---

**В РЕСПУБЛИКАНСКИЙ институт усовершенствования учителей Министерства народного образования БССР на кафедру русского языка и литературы в национальной школе регулярно приезжают на переподготовку учителя-словесники из братских республик страны. В нынешний заезд группу из 60 человек составляли преподаватели из Казахстана, Узбекистана, Литвы и Туркмении. Учителя из союзных республик в течение двух месяцев повышают профессиональную подготовку, совершенствуют навыки преподавания русского языка и литературы в своих национальных школах. Много времени уделяется практическим занятиям в учебных заведениях Минска и столичной области, общению с коллегами.**

**— Учеба у белорусских коллег, — говорит казашка Рыс Искакова, — очень обогатила меня и моих земляков, вооружила новыми методами, идеями. Все мы: и литовцы, и узбеки, и туркмены, и казахи, которых объединил и русский язык, и любимое дело, — не чувствуем никаких межнациональных барьеров и преград. Способствует этому прекрасная атмосфера взаимопонимания и уважения, царящая здесь, в Минске. Радушие и гостеприимство белорусских людей располагают к продолжению дружбы. Я обязательно приеду в Минск ещё раз, уже со своими учениками.**



**НА СНИМКЕ: слева направо — Рыс ИСКАКОВА из Казахстана, Даля ЖИТКЯВИЧУТЕ из Литвы и Токтасын ШОРМАКОВА из Казахстана на занятиях в институте.**

**Фото Ю. ПАВЛОВА.**

---

# ПО СЛЕДАМ ДРЕВНИХ ГОТОВ

На горе Кошке в Крыму шли строительные работы. Один из бульдозеров разравнивал площадку под фундамент у края пологой ложбины. Внезапно в отвале рыжего мергеля машинист увидел целую россыпь украшений из серебра, бронзы, драгоценных камней.

При всем моем неуважении к заштампованному слову «уникальный» здесь придется воспользоваться именно им. Потому что, как показали начавшиеся полтора месяца спустя археологические раскопки, в горах над крымским поселком Симеиз обнаружен некрополь раннего средневековья из более ста склепов, уникальный не только богатством и роскошью погребений, но и тем, что к нему прежде не прикасалась рука грабителя. Находки датируются V—X столетиями нашей эры.

## ПРОШЛОЕ

Крымский полуостров из-за своего расположения на перекрестке исторических дорог и райского климата в начале нашей эры вместил в себя три рабовладельческих государства: Херсонесскую республику на западе, Боспорское царство на востоке и Скифское государство на севере. Горные же районы южного побережья были заселены племенами тавров, занимавшихся земледелием, скотоводством, рыболовством.

С востока время от времени налетала мощная конница сарматских племен, а сарматы знали толк во владении оружием... Позже по территории полуострова прокатывались волнами полчища аланов, гуннов, то сражаясь между собою, то заключая временные союзы и захватывая приглянувшиеся участки территории под стойбища и поселения.

В конце II века нашей эры с севера, от берегов Балтики, двинулись к югу племена готов, и уже к середине III века они расселились в низовьях Днепра и на южном берегу Крыма. Шла ассимиляция, готы растворялись в других племенах, стоявших на более высокой ступени развития, заимствовали их опыт, знания, культуру.

Еще позже, в VII веке, в Крым ворвались хазары.

Полуостров все больше наполнялся оружием. Если в могильниках самого начала новой эры археологи находят прежде всего сельскохозяйственные орудия, то уже с III века среди находок главенствуют мечи, копья, ножи, стрелы. А еще — драгоценные украшения, зачастую являвшиеся предметами военной добычи.

## НАСТОЯЩЕЕ И БУДУЩЕЕ

Настолько сложным, противоречивым, переплетенным было взаимодействие многочисленных племен и народностей на Крымском полуострове, что сегодня историкам трудно разобраться в деталях их взаимоотношений, понять их этногенез.

Тем больший интерес представляют результаты раскопок Симеизского некрополя. Ученые считают, что он принадлежит смешанным аланоготским племенам. Орлиноголовые пряжки из серебра и драгоценных камней в научной литературе давно именуются украшениями готского типа, а таких пряжек здесь найдены многие десятки. Всего же находок — тысячи, в том числе изделия из золота.

Однако, пожалуй, не драгоценности представляют главный интерес, а предметы обихода, несущие в себе ценную информацию. Кроме того, искусственно удлиненные при жизни черепа некоторых погребенных дают возможность антропологам проводить весьма любопытные аналогии... Встречаются неизвестные ранее детали погребального обряда.

В Симеизе за прошедший археологический сезон раскопано более 80 склепов, но еще около двух десятков их, по предположениям ученых, находится в верхних ярусах некрополя. Они — вне пределов строительной площадки, на территории, принадлежащей Крымскому государственному заповеднику. Эта часть некрополя покрыта низкорослым, почти непроходимым горным дубняком. Решено склепы не вскрывать, оставить их в неприкосновенности для будущих поколений. Ведь через десятки или сотни лет ученые будут обладать более совершенными методиками и инструментами для исследований.

**Владимир КОЛИНЬКО.**

---

# ЧТОБЫ ВОСПИТЫВАТЬ ГУМАННОСТЬ

Из 135 преступников, осужденных за убийства, изнасилование и другие особо тяжелые преступления, 118 признали, что в детстве издевались над животными. Такие результаты получила член президиума советского общенационального Общества защиты животных, психоневролог К. Семенова, проведя опрос заключенных одной из тюрем.

Не удивительно, что, когда это общество было создано в декабре прошлого года, его учредители заявили: главная цель их деятельности — забота о моральных качествах людей.

— Конечно, дело далеко не всегда доходит до совершения преступлений, — говорит Семенова. — Однако когда в юном возрасте дети видят, с одной стороны, симпатичных зверюшек в мультфильмах, а с другой — небрежное, а подчас и жестокое отношение к реальным животным, — это первый урок лжи. Впоследствии эта ложь неизбежно скажется на формировании характера человека.

— Я убеждена, что наше благополучие, отношения между людьми и наше обращение с животными прямо связаны между собой, — говорит художница В. Максимова, заместитель председателя общества.

Казалось бы, программа общества — обеспечение благополучного положения домашних и содержащихся в неволе диких животных — не должна вызывать ничего, кроме симпатии. Именно так относится к ней большинство населения, активно содействуя работе общества, присылая добровольные взносы. Но, как сказала Максимова, при создании общества его инициаторы столкнулись с такими трудностями, что, знай они об этом раньше, многие бы отказались.

Как ни странно, но среди противников создания Общества защиты животных были такие организации, как Государственный комитет охраны природы, Советы министров РСФСР, Украины и Белоруссии, Министерство юстиции СССР и Государственный агропромышленный комитет (Госагропром), ныне уже не существующий.

По-видимому, эти организации придерживались мнения, что проблемы защиты животных у нас не существует. Однако активисты общества убеждены, что даже поверхностного взгляда достаточно, чтобы увидеть ошибочность такой точки зрения. По их данным, например, из-за недостатка заботы и плохих условий содержания сокращается продолжительность жизни сельскохозяйственных и домашних животных, зверей в зоопарках и цирках.

Несмотря на все трудности, общество существует, и его активисты полны энтузиазма. Их планы на будущее включают издание собственного журнала, организацию производства продуктов питания для домашних животных и установление деловых контактов с аналогичными организациями других стран и Всемирной организацией защиты животных.

— Мы созданы, чтобы помочь воспитывать человека гуманным, — заявила К. Семенова. — Это цель нашего общества.

**Михаил НАКОРЯКОВ.**

Уладзімір АРЛОЎ

# ДАЛЁКА ДА ВЯСНЫ

(Заканчэнне. Пачатак у № 19).

Ігнат выняў з кішэні гадзіннік. Вялікая стрэлка набліжалася да малой, каб сустрэцца з ёю на лічбе «12». Надыходзіў час, калі цар меў звычай выязджаць у манеж на агляд гвардыі. Занятак, варты такога дзяржаўнага дзеяча, як імператар. Чаго яшчэ чакаць ад чалавека, з малых гадоў прывучанага да пляц-парадаў, ад салдафона, які бачыць у падданых полк, а ў Айчыне — казарму?

У дні, калі Ігнат з таварышамі сачыў за царскімі выездамі, ён шмат разоў спрабаваў пранікнуць сваёй думкаю ў свядомасць імператара, пад гэты лоб з залысінамі, што часам мільгаў у прыцемненым акне карэты. Ён ніколі не мог знайсці там нічога больш істотнага, чым боязь бунту і багавейлівасць перад дзядзькам, германскім імператарам. Грынявіцкі часта шукаў у сабе нянавісць да цара і не знаходзіў яе. Ён ненавідзеў не Аляксандра, а ўсё тое, што стаяла за ягоным абліччам. Але зрэдчас Ігнат адчуваў, што насуперак сваёй волі ў далёкім цёмным кутку свядомасці ён на нейкае каліва яшчэ застаецца падданым гасудара імператара. Ведаў: гэта не стрымае яго, аднак канчаткова пазбыцца рэштак гэтага пачуцця ён здолее толькі тады, у тую самую хвіліну.

Першасакавіцкае сонца марна намагалася сагрэць зямлю, але ранішні віскуцень угамаваўся, і на плошчы было даволі людна, можна было не хвалявацца.

Непадалёку маладая дама ў сабаліным футэрку карміла галубоў. Каля зграбных санак пачціва стаяў фурман з гаспадынінай муфтаю і пульхным пірагом на срэбным сподзе.

Далей, мераючы плошчу нетаропкімі крокамі дробнага сталічнага службоўца, які выйшаў на свой нядзельны шпацыр, Ігнат зрабіў выснову, што думаць у гэтыя хвіліны пра цара — раскоша, якую ён ужо не можа сабе дазволіць.

Яму ўзбегла на памяць, як даўно, у гімназічныя гады, яго ўразіла смерць іхняга выкладчыка славеснасці. Той застрэліўся праз няшчаснае каханне, і Ігнату некалькі дзён не давала спакою пытанне: што думае і адчувае чалавек перад смерцю і што такое сама смерць?

Вось ты і маеш магчымасць даць сабе самы поўны адказ, падумаў ён.

Успомніў, што яшчэ не развітаўся з сябрамі. Праўдзівей, ён увесь час памятаў пра гэта, але ўсё адкладваў і адкладваў, каб быць з імі ў апошнія хвіліны, і цяпер, яшчэ раз зірнуўшы на гадзіннік, зразумеў, што пара.

Першы быў Жалябаў, і ўся Ігнатава істота абурылася супроць думкі, што ён больш не ўбачыць шырокай барады і зусім дзіцячай Андрэевай усмешкі, не пачуе ягонага голасу. Ён з пяшчотай падумаў, што нават цяпер, арыштаваны, Андрэй дапамагае ім. Міністр унутраных спраў ужо, несумненна, далажыў цару, што галоўны змоўшчык схоплены, а, значыць, самая вялікая небяспека для яго вялікасці мінулася...

Было паўгадзіны на першую. «Ну давай абдымемся і з табой, дарагі ты наш вынаходнік і філосаф». Ігнат убачыў меланхалічныя вочы Кібальчыча і падумаў, што заўсёдны спакой гэтага маўклівага летуценнага хахла — вынік не толькі ягонай сілы волі, але найперш — сілы думкі. Ён ніколі не пасміхаўся з сябравай мары аб паветранай лодцы. Узгадалася, як Кібальчыч нешта крэсліў дубчыкам на снезе, нават тады, калі яны ездзілі за Смольны манастыр выпрабоўваць снарады. «Няхай лёс бароніць цябе дзеля навукі...»

Ігнату падумалася, што цяпер ён ведае, што такое смерць: глухая чорная сцяна, якая назаўсёды аддзяляе ад сяброў.

Ён убачыў сябе ў сырнай лаўцы, адкуль вялі падкоп пад Малую Садовую. Яны, зняморжаныя так, што рукі і ногі, усё цела рабіліся чужымі і ўжо амаль не падпарадкоўваліся розуму, выпаўзлі з падкопу і паваліліся на скрынкі са свежай зямлёй. Гэта тады адзін з іх, фарсісты флоцкі афіцэр, улюбёнец жанчын, на якога некаторыя з арганізацыі глядзелі з насцярогаю, гаварыў ім: «Я не тэарэтык, я не займаюся разважаннямі. Але я адчуваю, што жыць без барацьбы цяпер проста няварта, занадта брыдка. У Расіі няма чым дыхаць, паветра няма...»

Ужо было каля гадзіны дня. Царскі экіпаж мусіў з'явіцца з хвіліны на хвіліну. Ігнат нацята глядзеў усцяж вуліцы, але замест карэты з казацкім эскортам заўважыў Соф'ю. Яна ўзмахнула белай насоўкаю, і гэта быў знак, што іхняе чаканне марнае: цар паехаў па іншых вуліцах, і два пуды дынаміту ў падкопе сталі непатрэбныя.

Ігнат быў рады і ўадначас крыху разгублены, [illegible] лёс падараваў яму яшчэ н[illegible]ю гадзіну, бо не чакаў ад[illegible]міноўкі і не ведаў, чым гэты час запоўніць. Таму ён усцешыўся, калі Соф'я загадала сабрацца ў кандытарскай насуп[illegible] Гасцінага двара і чакаць, пакуль скончыцца развод гвардыі. Ён ужо даўно забыўся, што магчымасць заняцца такой простай і звычайнай чалавечаю справай, як яда, можа прынесці такую радасць. Адчуваючы на каленях важкасць бомбы, Ігнат з'еў усю порцыю гарачых піражкоў з гарбатаю і здзівіўся, што таварышы пакінулі свае талеркі некранутымі і пазіраюць на яго з захапленнем. Мусіць, яны, нават Соф'я, зайздросцяць ягонай вытрымцы. «Каб жа вы ведалі, што я проста галодны з учарашняга вечара».

Кандытарская месцілася ў падвальным памяшканні, і, падняўшы вочы ўгору, можна было назіраць у невялікіх запыленых вокнах бясконцую чараду чалавечых ног, што спяшаліся па Неўскім.

На Кацярынінскім канале, куды яны пойдуць цяпер, і ў нядзелю звычайна пустэльна. Значыць, непатрэбных ахвяр не будзе. Памруць толькі тыя, хто павінен памерці.

Яны выйшлі з кандытарскай па адным і сышліся ўжо на канале. Набліжаючыся да свайго месца, Ігнат сустрэўся з Соф'яй і ўсміхнуўся ёй ледзь прыкметнаю ўсмешкай. Беларусачка, дачка беларускі... Яна так ніколі і не даведаецца, што я...

Ён не памыліўся: на набярэжнай было бязлюдна, адно вартаўнікі падмяталі панель каля саду і водбліз Тэатральнага моста маячыла пара постацяў, яўна агенты паліцыі. Пакунак з бомбай быў невялікі і няцяжкі, не болей пяці фунтаў, але яго нельга было схаваць у кішэню, і пільнаму воку шпегаў ён мог здацца падазроным. Таму Грынявіцкі вырашыў не шпацыраваць па набярэжнай і, прыхінуўшыся спіною да парапета, застаўся на месцы.

Уся ягоная развязнасць паступова некуды знікала, і душу браў у ледзяныя рукі страх. Яму здалося, што бомба, гэтыя шкляныя трубачкі з сернай кіслатой, кноты, выбуховы жэлацін, ужо сталі часткаю ягонага цела, што кроў па яго жылах гоніць ужо не чалавечае сэрца, а прамавугольная бляшанка са смяротным змесцівам. Розум на момант ператварыўся ў лядачы човен сярод хваляў страху. Але адно на момант.

Ігнат ачуўся, і з гэтае хвіліны ўсе ягоныя пачуцці абвастрыліся. Свет зрабіўся больш відочны, больш чутны і адчувальны. Грынявіцкі з прагнаю цікавасцю ўбачыў чыстае і халоднае, але нечым няўлоўным ужо вясновае неба над гарадам, пачуў, як унізе, на лёдзе, сварацца вароны, пачуў дзесяткі іншых гукаў. Ён узяў з парэнчаў жменю свежага снегу і стаў есці яго, як некалі ў маленстве. Свет здаўся яму суладным і дасканалым, і тае ж хвілі ён пачуў цоканне капытоў.

Спярша Ігнат пачуў яго нейкім таемным нутраным слыхам, бо сапраўды чуць царскі экіпаж яшчэ не мог. Але цоканне набліжалася. Вось яно стала цішэйшае — гэта на павароце ад Міхайлаўскага тэатра на канал фурман прытрымаў коней, і яны ішлі ступою. І зноў, ужо гучна, капыты ўдарылі па аледзянелым бруку.

На набярэжнай коні імператарскага экіпажа пайшлі буйной рыссю, і казакі з эскорту ўзялі наўскач. Карэта абагнала ўзвод юнкераў. Цару аддалі чэсць два сустрэчныя праабражэнцы. Экіпаж быў зусім блізка і даганяў самага малодшага з чатырох кідальнікаў бомбаў. У Грынявіцкага яшчэ паспела мільгануць трывога, як карэта зраўнялася з маладзёнам.

Тое, што адбывалася далей, было Ігнату такім знаёмым, быццам усё гэта ён неаднойчы бачыў у сне. Маладзён павярнуўся тварам да экіпажа і кінуў пад ногі рысакам бомбу. Паветра скалануў выбух, як ад залпу дзесятка гарматаў. Трое казакоў зваліліся з коней, угору паднялося густое воблака снегу. Зазвінелі разбітыя шыбы будынкаў на тым баку канала.

Праз некалькі імгненняў чалавека, які кінуў бомбу, ужо трымалі паліцэйскія і казакі, да іх беглі праабражэнцы з юнкерамі.

З пашчапанага экіпажа выйшаў цар.

— Схвачен ли преступник? — данёсся гучны голас Аляксандра.

Ігнат адчуў, што і яму, і цару ратунку ўжо няма.

Сэрца адлічвала секунды. Ён знайшоў вачыма Соф'ю на тым беразе канала і, адарваўшыся ад парапета, паволі рушыў наперад.

Чорная сцяна была побач, але ён не баяўся. Грынявіцкі адчуваў Соф'ін позірк, адчуваў яе думкі і думкі тых, што чакалі на канспірацыйных кватэрах ці ў хваляванні хадзілі па вуліцах; ад кожнага з іх цягнуліся да яго невідочныя нітачкі, якія не дазвалялі яму спыніцца і якія ён павінен быў абарваць другім выбухам.

Заставалася крокаў дзесяць. Усё засланіў цароў твар з густымі бакенбардамі. Грынявіцкі яшчэ раз з палёгкаю пераканаўся, што не адчувае да гэтага чалавека нічога, акрамя абыякавасці. Цар быў бы для яго пустым месцам, каб за гэтым позіркам трохі пукатых вачэй не было крыві, не было сотняў павешаных і забітых у турмах, не было здратаванай, укрыжаванай Радзімы.

Ён стаяў ужо амаль поруч з царом.

Ігнат адчуў, як нешта здарылася з часам. Час нібыта спыніўся, а можа, паплыў у адваротны бок, ператварыўшы гаману натоўпу ў гулкую цішыню, і ў ёй загучаў паланез.

Грынявіцкі са спакойнай рашучасцю зрабіў апошні крок і ўскінуў рукі з бомбай над галавой...

«Схвачен ли преступник? Схвачен ли преступник?» Над ім схіліўся твар з бакенбардамі. Але бакенбарды ўвачавідкі знікалі, вусы і валасы імператара сівелі, а пукатыя вочы ператвара[illegible]ў шкельцы пенснэ, і ён чуў [illegible]цькаў голас: «Памятай, ты — гонар гімназіі. Твае здольнасці забяспечаць табе выдатную кар'еру і праславяць наш род». Бацькава аблічча пачынала з[illegible]цца, як адбітак у вадзяны[illegible]стэрку, якое крануў вецер, і раставала ў прасторы, саступаючы месца даме, што карміла на Манежнай галубоў. Пільней прыгледзеўшыся да яе, ён змеціў, што гэта не жанчына, а самы малады з іхняе чацвёркі, і вусаты фурман са сподам — на самой справе не фурман, а жандарскі палкоўнік, і на сподзе ў яго ляжыць не пірог, а дынамітны снарад. Бледныя пульхныя вусны маладзёна крывіліся і шапталі: «Я хачу жыць. Жыць хачу...», палкоўнік усміхаўся, а ён, Ігнат, у роспачы крычаў маладзёну: «Не смей! Не смей!».

Новыя і новыя малюнкі нараджаліся ў ягонай свядомасці і зніклі: адны паступова, нібыта іх развейваў вецер, другія гаслі, як гасне ад подзьмуху агеньчык свечкі, і ў бязладдзі гэтых малюнкаў, скрозь гармідар гукаў і слоў чыстым струмком праточваўся аднекуль, то мацнеючы, то амаль прападаючы, журлівы голас бацькавай скрыпкі...

У гэты самы час у прапахлай карболкаю палаце прыдворнага шпіталю немалады прафесар чытаў медыцынскі акт:

— Дастаўлены ў непрытомным стане... На лбе шмат кроватачывых ранак. Правае вока неадчувальнае да святла...

— Прабачце, пан прафесар, я не медык,— спыніў чытанне следчы ў цывільным, які неадлучна сядзеў пры ложку.— Мяне цікавіць іншае. Скажыце, яго можна хаця б на хвіліну вярнуць да прытомнасці?

— Гэта можа цяпер толькі бог.

— Я чую ў вашых словах спагаду, пан прафесар,— бескалёрным голасам прамовіў следчы, вывучаючы мыскі сваіх чаравікаў.

— Толькі як медыка да пацыента,— паспешліва сказаў прафесар і пасля кароткага маўчання дадаў: — Для мяне ён найперш безнадзейны хворы.

— Для ўсіх нас ён найперш царазабойца, чалавек, які падняў руку на свяшчэнную асобу гасудара.— Следчы гаварыў з тым самым, што і раней, застылым выразам на чыста голеным твары, але ў голасе прарэзаліся металёвыя інтанацыі.

Сівы прафесар, адвёўшы вочы, глядзеў на схаванага пад бінтамі незварушнага чалавека.

Грынявіцкі быў у падкопе пад Малой Садовай. У задушлівым сутарэнні, ледзь асветленым мігатліваю лямпаю, было цесна і сыра, як у магільным склепе. На нейкі міг яму прымроілася, што гэта сапраўды склеп, і ён спалохаўся, але адразу згледзеў у прыцемку сяброў, усю іхнюю змену, і супакоіўся. Прамоклая, перапэцканая зямлёю сарочка ліпнула да цела, пот выядаў вочы, мучыла страшэнная смага, але ён капаў і капаў, не дазваляючы сабе перапынку. Гэта быў ужо не падкоп пад вуліцу: шляху назад не было, іх завaліла, прыціснула зямлёй, і яны адчайна прабіваліся з завалу наверх, да святла, да паветра і вады. Ён ведаў, што засталося зусім мала, можа, некалькі ўзмахаў рыдлёўкі, і прыйдзе вызваленне. З астатніх сіл Ігнат сек непадатную зямлю над галавой, і вось зверху пасыпалася каменне, глыжы і жвір, і ён убачыў атвор.

Але замест сонечнага святла ў атворы быў нечы чыста выгалены твар.

— Імя... Скажыце мне ваша імя...— ласкава, амаль пяшчотна прасіў голас, які належаў гэтаму твару.

Ён памятаў сваё імя і, узрадаваны, што помніць, хацеў выгукнуць: «Грынявіцкі», ды за ласкавасцю голасу хавалася нешта іншае, і ён паспеў утаймаваць крык, што быў гатовы ўжо сарвацца з вуснаў.

— Імя... Мне трэба толькі імя... Імя! — паўтараў голас, і ўніклівая ласкавасць пераходзіла ў стылую зласлівасць.

Грынявіцкі нарэшце зразумеў, дзе ён і хто з ім гаворыць. Але разам з вяртаннем свядомасці ў яго зраненае цела, у кожную клетку безліччу вострых кіпцюроў упіўся звер нечалавечага болю.

— Імя! Імя!— ускочыўшы на ногі, крычаў следчы.

Боль раздзіраў на тысячу кавалкаў, і адзіным збавеннем было новае забыццё, але да Ігната яшчэ цягнуліся нітачкі, якія ён адчуваў перад выбухам на канале, і, перш чым абарвацца ў бездань, на самым краі стромы, ён паспеў пачуць свой голас:

— Не... ведаю...

Боль адразу выпусціў са сваіх лапаў, ды голены твар у атворы не знікаў, і Грынявіцкі замахнуўся на яго рыдлёўкаю, што зноў апынулася ў руках.

Атвор засыпала зямлёю, і ён разграбаў яе — спачатку рыдлёўкай, а потым, дарэшты змогшыся, рукамі, і апошнія кроплі моцы падтрымлівала ў ім веданне, што ён не самотны, што недзе побач прабіваюцца да святла іншыя.

У той момант, калі сонечныя промні пырснулі Грынявіцкаму ў вочы, следчы страпянуўся і запытальна паглядзеў на прафесара. Доктар моўчкі нахіліў сівую галаву.





**Прэм'ера оперы Уладзіміра Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» адбылася ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларускай ССР. Спектакль створаны па аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча. Аўтар лібрэта — Святлана Клімковіч. Дырыжор-пастаноўшчык — заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Аляксандр Анісімаў, рэжысёр-пастаноўшчык — Вячаслаў Цюпа. Спектакль прынёс поспех яго стваральнікам, а гледачам — вялікае задавальненне.**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэна са спектакля; партыю Яноўскай выконвае салістка тэатра Наталля КАСЦЕНКА; прэм'ера прайшла паспяхова.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА, У. МЯЖЭВІЧА.**



## ГОСЦЬ З КУБЫ

Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў на пачатку мая кубінскі паэт Гілерма Радрыгес Рывера. Ён азнаёміўся з мясцінамі, звязанымі з жыццём і творчай дзейнасцю народнага песняра Янкі Купалы, наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Наш кубінскі сябар меў гутарку ў СП БССР, у якой удзельнічалі Максім Танк, Ніл Гілевіч, Алесь Жук. Паэт пытаўся пра перабудову, пра нашы літаратурныя выданні, цікавіўся, як Саюз пісьменнікаў дапамагае літаратарам у стварэнні ўмоў для творчай працы.

Л. ЧАРЭШНЯ.

## ШЛЯХ ДА СЭРЦА СЛУХАЧОЎ

Права на заахвочвальную паездку ў Чэхаславакію атрымаў народны хор «Прыпяць» Лунінецкага завода электрарухавікоў.

Гэты самадзейны калектыў, які быў створаны сем гадоў назад карыстаецца папулярнасцю сярод аматараў народнай песні. І гэта не выпадкова. У рэпертуары хору — у асноўным беларускія народныя песні, якія знаходзяць самыя кароткія шляхі да сэрца слухачоў. Рыхтуюцца артысты і да паездкі ў Польскую Народную Рэспубліку, дзе ў іх даўнія сувязі з працаўнікамі машынабудаўнічага завода «Эда» ў горадзе Панятова Люблінскага ваяводства.

У. МАКАРЭВІЧ.

ВЫСТАЎКА ТАЛЕНАВІТАГА ЖЫВАПІСЦА

# СВЕТ МІХАІЛА ШАМЯКІНА

У Маскве, у Цэнтральным доме мастака, прайшла першая экспазіцыя работ Міхаіла Шамякіна, арганізаваная Саюзам мастакоў СССР і Галерэяй Болз-Сарока (ЗША).

Імя Шамякіна добра вядома ў свеце — яго карціны можна ўбачыць у Парыжы, Лондане, Нью-Йорку, Токіо, Мадрыдзе. У 1979 годзе яму была прысуджана доктарская ступень універсітэта Сан-Францыска і Акадэміі мастацтва[illegible]ўропы ў галіне сучаснага [illegible]яўленчага мастацтва.

Скон[illegible]шы ў 1966 годзе ў Ленінградзе мастацкае вучылішча, малады жывапісец некалькі гадоў выстаўляў свае р[illegible]ы ў Маскве і Новасібір[illegible]. З 1971 года ён працуе ў Францыі, дзе малюе плакаты, робіць ілюстрацыі да кніг, невялікія скульптурныя кампазіцыі, афармляе пласцінкі. З 1980 года М. Шамякін — у Нью-Йорку.

Знаходзячыся за мяжой, рускі авангардыст не губляе сувязі з Радзімай, уважліва прыслухоўваецца да яе напружанага жыццёвага рытму. Ён фінансуе выданне буйнога англамоўнага часопіса «Мастацтва Расіі і Захаду», выпускае дзевяць пласцінак Уладзіміра Высоцкага, афармляе чатырохтомнік паэта.

Важнае месца ў жыцці мастака займае грамадская дзейнасць. Ён супрацоўнічае з Міжнародным камітэтам за выратаванне савецкіх ваеннапалонных у Афганістане, пералічвае сродкі ў фонд пацярпеўшых ад землетрасення ў Арменіі, а таксама ў фонд Цэнтра фізічнай і сацыяльнай рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія вярнуліся з Афганістана.

На маскоўскай выстаўцы мастака прадстаўлена 150 работ: жывапіс, графіка, скульптура, мініяцюра. Сярод іх — прыгожа афармленая пласцінка оперы Чайкоўскага «Пікавая дама», скульптурныя кампазіцыі - фантасмагорыі паводле матываў аповесці Гогаля «Нос» — «Пецярбург», «Карнавал», «Балаганчык». У цікавай авангардысцкай манеры выкананы партрэты дырыжора Ігара Стравінскага і паэта Уладзіміра Высоцкага.

Шамякін — дасканалы майстар трагічных афортаў пра вайну. У карцінах «Мяснік», «Сон мерцвяка» пэндзаль мастака выкрывае катаў, даследуе прыроду чалавечай подласці, прыстасавальніцтва.

У экспазіцыі нямала філасофска-сімвалічных палотнаў, у якіх аўтар разважае аб уроках гісторыі. У іх страсны заклік да міру, да маральнага ачышчэння, асэнсавання жыцця. Пры гэтым карціны авангардыста берагуць роднае духоўнае зерне, яны поўныя святла, аптымізму.

На прэс-канферэнцыі, арганізаванай пасля вернісажу, М. Шамякін сказаў, што верыць у працяг радасных сустрэч з Радзімай. А жыхары і госці савецкай сталіцы знаёмяцца са шматколерным светам вобразаў, створаных рускім таленавітым жывапісцам.

Арцём УСЦІНАЎ.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ДВА ГОМЕЛІ

Дзе размяшчаецца Гомель? Жыхары абласнога цэнтра Беларусі, напэўна, палічаць гэтае пытанне крыху дзіўным. А вось жыхары Полацкага раёна Віцебскай вобласці, відавочна, будуць успрымаць яго больш сур'ёзна. Для іх Гомель — не адзінае паняцце: многія з іх добра ведаюць, акрамя горада на берагах Сожа, яшчэ і вёску Гомель ля аднайменнага возера за 24 кіламетры на поўдзень ад Полацка.

Два Гомелі... На першы погляд, нічога дзіўнага і незвычайнага ў гэтым няма: на карце Беларусі шмат назваў, у якіх адлюстроўваюцца найменні іншых краёў, мясцін, гарадоў. У Пружанскім раёне, на Брэстчыне, напрыклад, існуе вёска **Магілёўцы.** У Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці ёсць вёска **Бэбруйшчына.** У Гродзенскім, Іўеўскім і Карэліцкім раёнах Гродзенскай вобласці вядомы населеныя пункты пад назвай **Баранавічы.** У Крычаўскім і Хоцімскім раёнах Магілёўскай вобласці — вёскі **Чаркасы, Кіевец, Кіевічы.** Горад **Лоеў** ёсць на Гомельшчыне, а таксама і ў Малдавіі.

Адпаведная з'ява распаўсюджана не толькі на Беларусі, яна характэрная для ўсіх без выключэння краін і народаў. Але універсальнасць яе зусім не азначае аднолькавую прычыну паўтарэння назвы ў кожным канкрэтным выпадку.

За пытаннем пра тое, чаму, напрыклад, слова **Гомель** двойчы адлюстравалася на поўначы і паўднёвым усходзе Беларусі, хаваюцца вельмі цікавыя падзеі і факты, вартыя таго, каб паразважаць пра іх спецыяльна. За гэтымі падзеямі і фактамі — гісторыя роднай зямлі, памяць аб мінулых стагоддзях, наша спадчына.

...У канцы XIX стагоддзя, згодна з перапісам 1897 года, у вёсцы Гомель былога Полацкага павета было 30 двароў, а насельніцтва складалася з 243 жыхароў. У параўнанні з іншымі населенымі пунктамі так званых паўночна-заходніх губерняў таго часу Гомель лічыўся даволі буйным паселішчам. Непадалёку ад полацкага Гомеля існуе вёска **Двор Гомель,** або **Двор Гомля.** Гэты населены пункт, магчыма, узнік як выселак з асноўнага паселішча, прычым магчымае перасяленне адбылося не пазней XVI стагоддзя. Гэта вынікае з таго, што слова **Двор** у межах Вялікага княства Літоўскага актыўна выкарыстоўвалася якраз у перыяд з XIV да XVI стагоддзя ў найменнях тых вёсак, дзе знаходзіўся цэнтр вотчыннага панскага (шляхецкага) землеўладання. Гэтая або іншая панская ці памешчыцкая сядзіба магла размяшчацца таксама і ў былым Люцынскім павеце Віцебскай губерні (на поўнач ад Полацка, на тэрыторыі цяперашняй Латвіі), дзе старыя спісы населеных месцаў адзначаюць маёнтак **Гомельмуйжа,** гэта значыць, **«муйжа Гомель»,** або **«мыза Гомель»** у перакладзе з латышскага. Слова **мыза,** як і слова **двор,** — гэта таксама назва аднаго з тыпаў населеных пунктаў. Мыза ў большасці выпадкаў служыла найменнем памешчыцкай сядзібы, а сам гэты тып паселішча распаўсюджваўся з XVI стагоддзя.

У наваколлі полацкага Гомеля існуе цэлы комплекс старажытных курганоў-могільнікаў, якія адносяцца да XII-XIII стагоддзяў. Па сучасных даных, тут налічваецца 24 археалагічныя помнікі, але дарэвалюцыйныя выданні называюць удвая большую лічбу курганоў — 48.

Як бачым, ёсць падставы, каб прызнаць магчымае існаванне паселішча пад назвай **Гомель** у Полацкім краі яшчэ ў старажытнарускі перыяд. А калі гэта так, дык трэба прызнаць і незалежнасць узнікнення полацкага Гомеля ад Гомеля над Сожам і адхіліць магчымую версію пра верагоднае перасяленне часткі насельніцтва з Пасожжа на Полаччыну, якое як быццам і заснавала паселішча, назваўшы яго Гомелем пад уплывам галоўнай назвы сваёй роднай мясцовасці.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ДВА ГОМЕЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

У XII-XIII стагоддзях, калі ў полацкім краі на беразе возера Гомель былі насыпаны маўклівыя курганы, на Сожы, на зямлі радзімічаў, развіваўся невялікі, але значны ў наваколлі племянны цэнтр Гомель. Дарэчы, ён таксама ўзнік на самым беразе воднага аб'екта — пры злучэнні невялікай рэчкі Гаміюк з такой значнай воднай артэрыяй, як Сож. Старажытныя паселішчы вельмі часта будаваліся на высокіх стромых берагах азёр і рэк. Так было і ў выпадку з полацкім і надсожскім Гомелем. Узнікненне аднолькавай назвы двух гэтых населеных пунктаў адбылося незалежна, але было абумоўлена падобнымі геаграфічнымі ўмовамі — размяшчэннем першапачатковага цэнтра пасялення на стромым высокім беразе над водным аб'ектам. Нездарма ў аснове назвы **Гомель** ляжыць старажытнае слова **гом** у значэнні «ўзгорак, узвышша».

Гомель на Сожы ўзнік дзесьці ў IX-X стагоддзях, як адзначалася, на зямлі радзімічаў. Гомель полацкі размясціўся ў старажытным краі крывічоў. Радзімічы і крывічы — усходнеславянскія плямёны. У кожнага з іх — свой лёс. Але было б памылкай лічыць, што калі крывіцкі і радзіміцкі Гомель узніклі незалежна адзін ад другога, дык няма і іншых фактаў, якія б сведчылі пра існаванне гістарычных сувязей паміж крывічамі і радзімічамі.

На поўначы Гомельскай вобласці існуюць дзве вёскі — **Стары Крыўск** і **Новы Крыўск** (Рагачоўскі раён). Цэнтр сельсавета, у які ўваходзяць адзначаныя вёскі, называецца **Курганкем**, прычым зусім не выпадкова. Побач адкрыты цэлы археалагічны комплекс — 26 курганоў, якія датуюцца XI-XII стагоддзямі. У курганах знойдзены пахаванні радзімічаў. У наваколлі вёскі **Новы Крыўск** археолагі знайшлі яшчэ больш курганоў — 44 насыпы. Пры раскопках даследчыкі адшукалі звычайныя, на першы погляд, у помніках такога тыпу рэчы — кольцы, шкляны бісер, пацеркі, абломкі глінянага посуду, жалезны нож, шыферныя прасніцы. Але вось што цікава і знамянальна: калі курганы X і пачатку XI стагоддзяў належалі радзімічам, то ў курганах XI і пачатку XII стагоддзяў з'яўляюцца рэчы, характэрныя толькі для крывічоў. Крывічы былі тут прышэльцамі. Дарэчы, і назва вёскі **Крыўск** вельмі праўдападобна тлумачыцца ў сувязі з этнічным найменнем крывічоў.

У старажытнасці існавалі сувязі не толькі паміж крывіцкай і радзіміцкай землямі. Крывічы былі наогул вельмі актыўнай племяннной групай. Яны імкнуліся рассяляцца не толькі на паўднёвы ўсход, у напрамку радзімічаў, але і на паўднёвы захад.

Географа-статыстычныя матэрыялы канца XIX стагоддзя паведамляюць, што ў былой Віленскай губерні на тэрыторыі Віленскага павета, у паўднёва-ўсходняй частцы Ашмянскага павета і на ўсёй прасторы за правым берагам ракі Дзітвы да граніцы з Гродзенскай губерняй жывуць крывічы, якія не маюць асаблівых адрозненняў ад беларусаў. У даным выпадку мы сутыкаемся з захаваннем старадаўняй назвы насельніцтва паўночнай часткі Беларусі. Аднак захаванне старой назвы ўдалечыні ад асноўнай тэрыторыі крывічоў не можа быць выпадковай. Можна меркаваць, што яна выкарыстоўвалася тут з даўніх часоў, менавіта з той пары, калі полацкія крывічы ў X-XI стагоддзях пранікалі на землі Вер[illegible] Панямоння. Цікава, што [illegible]каторыя дарэвалюцыйныя [illegible]ледчыкі (напрыклад, І. Бяля[illegible] [illegible]апускалі, што выхадцы з Полацкай зямлі заснавалі гарады Навагрудак, Слонім, Ваўкавыск і іншыя. Вядомы сав[illegible] археолаг В. Сядоў наог[illegible] лічыць, што крывічы прыйшлі на свае гістарычныя землі з раёнаў Панямоння і Бугска-Віслянскага міжрэчча.

Як бы там ні было, але крывіцкія «сляды» безумоўна ёсць на тэрыторыі паўночна-ўсходніх і некаторых іншых раёнаў сучаснай Гродзенскай вобласці. Гэта, напрыклад, вёскі пад назвай **Крывічы** ў Лідскім і Іўеўскім раёнах.

Асобныя групы крывіцкіх перасяленцаў пранікалі яшчэ далей на поўдзень: дзве вёскі **Крывічы** вядомы ў Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці і ў Салігорскім раёне Мінскай вобласці. А самая паўднёвая падобная «кропка» на карце Беларусі — Пінскі раён на Брэстчыне, дзе таксама ёсць вёска **Крывічы.**

У пачатку XII стагоддзя паўднёвая граніца Полацкага княства праходзіла на поўнач ад Слуцка, паміж гэтым горадам і цячэннем Свіслачы. Полацкае княства было адным з найбольш магутных дзяржаўных утварэнняў таго часу. Яшчэ першы вядомы нам з летапісаў полацкі князь Рагвалод (яго імя азначае «ўладальнік рога»), які княжыў у канцы X стагоддзя, імкнуўся пашырыць межы сваіх уладанняў і аб'яднаць пад сваёй уладай крывіцкія, радзіміцкія і дрыгавіцкія землі, гэта значыць, прыкладна, амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі. Згодна з паданнем, запісаным яшчэ ў XIX стагоддзі, Рагвалод накіраваў свае дружыны на поўдзень па цячэнні Дняпра, а калі яны дайшлі да вусця ракі Прыпяць, загадаў, каб адна з дружын на чале з Турам рухалася ўверх па цячэнні Прыпяці. На гомельскім Палессі дагэтуль існуюць легенды, якія звязваюць пачатак самага старажытнага горада Палесся — Турава якраз з прыходам князя Тура з моцнай дружынай. Легенды, вядома, ёсць легенды. І не вельмі проста аддзяліць у іх сапраўднае ад выдуманага. Але ўжо сам факт іх існавання вельмі красамоўны. Ён, як, дарэчы, і іншыя нагаданыя ў гэтым артыкуле факты, сведчыць аб непарыўнай сувязі ўсходнеславянскіх плямёнаў, аб старажытных кантактах з самых далёкіх часоў паміж імі, а таксама аб адзіным паходжанні і роднасці. Вось і два Гомелі — на самай поўначы і на самым поўдні Беларусі — напамінак аб гэтым.

**А. РОГАЛЕЎ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства СССР.**

## АЗЁРЫ ДАБРЫНІ

*СЛОВЫ У. КАРЫЗНЫ МУЗЫКА Л. ЗАХЛЕЎНАГА*



**Падыходзяць да самага, самага бору,**
**Шумлівага бору,**
**Уволю наслухацца музыкі спеўнай**
**Азёры.**
**Вякамі глядзяць з захапленнем**
**На сонца і зоры**
**І самі глыбеюць, і самі святлеюць**
**Азёры,**
**І самі святлеюць**
**Азёры,**
**І я там хадзіла і сэрца студзіла**
**Да самага рання,**
**І хвалі змывалі палынныя слёзы**
**Кахання.**
**Я знаю, хто любіць душою**
**Блакіту прасторы,**
**У сэрцы таго дабрыні і спагады**
**Азёры,**
**Святла і спагады**
**Азёры.**
**Вякамі глядзяць з захапленнем**
**На сонца і зоры —**
**Сама дабрыня і краса майго краю —**
**Азёры,**
**Краса майго краю —**
**Азёры.**

ЗДАРЭННЕ

## ПАКВАПІЛІСЯ НА САБАКУ

Жыхар вёскі Скірмантава саўгаса «Камсамолец» Дзяржынскага раёна Дзмітрый Лебедзеў пад вечар вырашыў праведаць сваю маці, якая жыве ў суседняй вёсцы Глушынцы. Як заўзяты аматар палявання, узяў з сабой ружжо, паляўнічага сабаку па мянушцы Баёк. А раптам па дарозе напаткаецца заяц ці лісіца?

Лебедзеў быў у полі, калі сабака, які бег наперадзе метраў за дваццаць ад гаспадара, пачаў нечакана падавацца назад, моцна скавытаць. Паляўнічы не паспеў і вокам міргнуць, як на Байка накінуліся два ваўкі. Але Лебедзеў не разгубіўся. Схапіў з пляча двухстволку і, амаль не цэлячыся, стрэліў. Адзін з драпежнікаў упаў, як падкошаны, а другі кінуўся наўцёкі.



**Валянціна Рудовіч з тых шчаслівых людзей, у каго цесна перапляліся прафесійныя абавязкі і захапленне. Больш дзесяці гадоў назад, пасля заканчэння Бабруйскага мастацкага вучылішча, прыйшла яна лепшчыцай на Івянецкі завод мастацкай керамікі, стала майстрам сваёй справы. За гэты час праца не прыелася, не надакучыла. І ў гадзіны адпачынку Валянціна Рудовіч зноў бярэ ў рукі гліну. І нараджаюцца стройныя амфары, абвітыя ружамі, арыгінальныя карзінкі, упрыгожаныя пяшчотнымі ландышамі, вазы, шчодра ўвітыя кветкамі. І нельга не дзівіцца тым новым граням, якімі пачынае раптам іграць гліна. Работы В. Рудовіч дораць радасць. А пазнаёміцца з імі можна ў музеях нашай рэспублікі і Масквы.**
**НА ЗДЫМКУ: Валянціна РУДОВІЧ за работай.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА**

## *У ФОНД ДАПАМОГІ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ*

**Кожны, хто хоча падтрымаць матэрыяльна будаўніцтва Музея беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху (Беларускага музея) у Гайнаўцы на Беласточчыне (ПНР), мае магчымасць цяпер зрабіць сваё ахвяраванне праз Беларускае таварыства «Радзіма».**

**Як арганізацыі, так і прыватныя асобы могуць перавесці свой добраахвотны ўзнос**

**НА РАХУНАК № 141713 БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» Ў ЖЫЛСАЦБАНКУ Г. МІНСКА.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 550